# МАРНА ПАРЫЛІСЯ

**22 чэрвеня ў гарадзенскім парку Жылібера адбыўся мітынг-рэквіем з нагоды абвешчанага прэзідэнтам дня ўсенароднага смутку.**

Мітынг адкрыў намеснік старшыні гарвыканкаму Іван Ціток, які зачытаў тэлеграму, дасланую ў Горадню Барысам



Ельцыным. Прэзідэнт Расеі выказаў упэўненасьць, што народы СНД не дапусьцяць узьнікненьня на сваёй зямлі новай вайны. Сваімі ўспамінамі і развагамі пра першыя дні вайны падзяліўся з прысутнымі палкоўнік у адстаўцы Барыс Кац. Зусім не да месца на мітынгу была ода "мужнасьці і арганізатарскім здольнасьцям камуністычнай партыі ў гады вайны" у выкананьні аднаго з лідараў гарадзенскіх камуністаў Уладзіміра Верхася. Ахвяры Другой сусьветнай у роўнай ступені на рахунку і фашыстаў і бальшавікоў.

Яшчэ больш абсурдныя выглядалі празьмерныя меры бясьпекі з боку міліцыі. Разьдзьмутая ў Менску хваля беларусафобіі дакацілася і да Горадні. Удзельнікі мітынгу вымушаныя былі смуткаваць у атачэньні вялікай колькасьці



міліцыянтаў і супрацоўнікаў АМАПу. Міліцыянты нават вызначалі, па якой сьцежцы можна падыходзіць да мітынгуючых і помніка загінуўшым, а па якой не. Марна прапарыліся ў машынах да канца мітынгу разьмешчаныя на прылягаючых да парку вуліцах і пляцах рэзэрвовыя сілы АМАПу. Але за зарплату, якая пасьля нядаўняга ўказу прэзідэнта ў некалькі разоў перавышае пенсію тых жа ветэранаў, можна і папацець.

**Вітаўт РУДНІК.**

**На Беласточчыне адбылася сустрэча паміж сьпікерам Вярхоўнага Савету Сямёнам Шарэцкім і маршалкам польскага сейму Юзэфам Зыхам. Таксама ў ёй прымалі ўдзел старшыня парламанцкай камісіі па міжнародных пытаньнях Пётр Краўчанка і віцэ-ваявода Беласточчыны Гжэгаж Янкоўскі. Сустрэча ня мела афіцыйнага характару і прайшла па ініцыятыве беларускага боку з мэтай наладзіць плённае супрацоўніцтва паміж парламантамі Беларусі і Польшчы і ўмацоўваць ролю заканадаўчых улад у абедзьвюх краінах.**

# "НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ПАРУШЭНЬНІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА"

Пад час сустрэчы абмяркоўваліся пытаньні, якія датычаць абодвух бакоў: замежная палітыка, узаемаадносіны, становішча нацыянальных меншасьцяў. Размова ішла і пра інцыдэнт з Кшаклеўскім, і пра польскіх ксяндзоў. Гутарылі і аб уступленьні Беларусі ў Раду Эўропы. Калі Беларусь выканае пастаўленыя ўмовы, дык Польшча яе падтрымае, як падтрымала раней Расею і Украіну. Якія гэта ўмовы - не ўдакладнялася. Пра НАТА пад час сустрэчы гаворкі не было. У гэты ж дзень дэлегацыя Беларусі сустрэлася з прадстаўнікамі Грамадзкасьці беларусаў Беласточчыны. Некаторыя з удзельнікаў сустрэчы сумняваліся, ці захаваецца беларускасьць у самой Беларусі, асабліва пасьля некаторых крокаў прэзідэнта Лукашэнкі. "Мы разумеем, што такое супрацоўніцтва між дзьвюма краінамі, а што - падпарадкаваньне аднае другой",- казаў Аляксандр Увальнюк, былы рэктар Гайнаўскага бел. ліцэя. Пётр Краўчанка заявіў , што з верасьня сесіі ВС будуць весьціся па-беларуску, а старшыня С. Шарэцкі выступіць са зваротам, каб у большай ступені ў працах парламанту выкарыстоўвалася беларуская мова. Сёньня на ёй пастаянна гаворыць з 199 толькі 3-5 дэпутатаў. Адносна палітычнага становішча ў Беларусі Краўчанка сказаў, што дамовы Ельцына і Лукашэнкі не супярэчаць законам рэспублікі, але могуць скласьці небясьпеку для беларускай незалежнасьці. У эканамічным плане на сёньня яны ніякага эфекту не прынеслі. Станоўча ацэньваліся на сустрэчы маніфестацыі пратэсту ў Менску. "Мы будзем старацца, каб нас прынялі у Раду Еўропы, нягледзячы на парушэньні правоў чалавека ў нас" - гаварыў Пётр Краўчанка.

У сувязі з паведамленнем аб хуткім адкліканьні консула Слемнёва польскія беларусы адназначна станоўча ацанілі яго працу. Падкрэсьлівалі ягонае асабліва тонкае разуменьне беластоцкіх рэалій.

**Мікола Рагабыльскі.**

# "ЗАВЕТАМ ГЕББЕЛЬСА ВЕРНЫ!"

**"Дайце мне кропку апоры - і я перакулю ўвесь сьвет! - сказаў кальсьці Архімед. Нянавісьць да ўсяго беларускага стала той кропкай апоры, з якой перакульваюць сьвет прэзідэнцкія архімедзікі ад кіно. 21 чэрвеня на беларускім тэлебачанні дэманстраваліся чарговыя "дзеці ілжы"-новая ідэалагічная фальшыўка пад назвай "Перевёрнутый мир. Мифы и реальность".**

Зьлепленую на хуткую руку кінастужку запусьцілі без папярэдняга абвяшчэньня ў праграме тэлебачаньня якраз напярэдадні акцыі "Народ супраць фашызму", якую ладзіла апазіцыя. Нашчадкі Гебельса не шкадуюць чорнай фарбы і зморчных эпітэтаў, распісалі "антынародную" дзейнасьць Народнага Фронту, зрабілі шэраг "грунтоўных" экскурсаў у гісторыю. Пры гэтым дагаварыліся нават да таго, што БНР была жыдоўскай рэспублікай. У адрозьненьне ад "Дзяцей ілжы" Гасьцюхіна і Азаронка, "бацькі" гэтай стужкі пажадалі застацца невядомымі. Ніякіх цітраў з указаньнем стваральнікаў фільма не было. Затрэшчына Азаронку навучыла яго пасьлядоўнікаў.

**Вінцук Мальскі.**

# МЕДКАМІСІЮ ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА!

**"Просім разгледзець магчымасьць стварэньня міжнароднай камісіі для медычнага абсьледаваньня Аляксандра Лукашэнкі", - гаворыцца ў звароце да Рады Эўропы, падпісаным 19 чэрвеня Зянонам Пазьняком і Сяргеем Навумчыкам.**

У канцы 1994 году група дэпутатаў беларускага парламанту (у тым ліку і Пазьняк з Навумчыкам), занепакоеных псіхічным станам Лукашэнкі, ужо прапаноўвала стварыць сьпецыяльную медыцынскую камісію для медагляду прэзідэнта. Прапанова тады не атрымала падтрымкі.Незвычайнасьць звароту ў Раду Эўропы старшыня БНФ Зянон Пазьняк і сябра беларускага Хельсінскага Камітэту Сяргей Навумчык тлумачылі тым, што "непрадказальнасьць паводзінаў Лукашэнкі становіцца ўсё больш відавочнай" . Гэта выяўляецца ў "празьмерна жорсткіх, бессэнсоўных з пункту гледжаньня палітычнай логікі дзеяньнях, у пастаянным пошуку ворагаў. Гэта ўяўляе асаблівую небясьпеку з улікам стварэньня ім незаконных узброеных фармаваньняў (гэтак званая "Служба бясьпекі Прэзідэнта, якая налічвае каля 1800 чалавек) і яго імкненьне пакінуць на тэрыторыі Беларусі ядзерную зброю".

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

# ГРАМАДА, ГРАМАДА, ШТО З ТАБОЙ ЗДАРЫЛАСЯ?

**"ПАГОНЯ" працягвае друкаваць водгукі сваіх чытачоў на ідэю аб'яднаньня БСДГ і Партыі Народнай Згоды.**

"Нацыянальная ідэя на Беларусі сябе ўжо вычарпала, таму далейшае павелічэньне сябраў партыі немагчымае" - заявіў М.Патрэба 19 чэрвеня на сходзе Гарадзенскай філіі БСДГ.

У адказ на страшэнны наступ існуючага рэжыму на правы і свабоды чалавека неабходна кансалідацыя усіх дэмакратычных сіл краіны, калі трэба "усёй дружнай, вялікай, крывіцкай сям'ёй" (Л.Геніюш) абараняць незалежнасьць Беларусі, БСДГ кідае перапраў і сьпяшаецца ўвайсьці ў склад ПНЗ, з якой па многім палітычным пытаньням займае процілеглыя пазіцыі.

Кіраўнік БСДГ Мікола Статкевіч і яго прыхільнікі, сярод якіх і М.Патрэба, сьпяшаюцца адкінуць многае з таго, што было адобрана сябрамі сёньняшняй партыі, адмовіцца ад традыцый рабочай і сялянскай грамады, сеюць недавер Беларускаму Народнаму Фронту і яго лідарам у такі цяжкі час.

М.Патрэба лічыць, што "аб'яднаньне дапаможа БСДГ павялічыць колькасьць сябраў партыі. Але, з той прычыны, на якую спасылаецца старшыня Гарадзенскай філіі, не адбываецца павялічэньне радоў мясцовай арганізацыі. Справа ў тым, што ў Горадні мала хто ведае пра дзейнасьць БСДГ, пра вечарыны, сустрэчы, якія яна арганізуе, пра мітынгі, пікеты ў абарону палітычных вязьняў.

Цяжка паверыць, што удзельнікі сходу Гарадзенскай філіі БСДГ, які адбыўся 19 чэрвеня "амаль аднагалосна" падтрымалі аб'яднаньне, якое прапануе Цэнтральная Рада партыі і спадар Патрэба. Трэба было паведаміць, колькі сяброў партыі прысутнічала на сходзе.

А прафесару А.Пяткевічу і яго аднадумцам, трэба не заўвагі рабіць па праекту праграмы новай партыі, а змагацца за лёс Нашай Беларускай Грамады.

Грамада павінна жыць і крочыць наперад не з ПНЗ,а з тымі сіламі, якія выступаюць пад бел-чырвона-белым сьцягам, якія бароняць нашу незалежнасьць.

**М.КІРЭЙ.**

# КАНФЕРЭНЦЫЯ НАРОДНАГА ФРОНТУ

5-га ліпеня ў штаб-кватэры гарадзенскай рады БНФ пройдзе гарадзкая канферэнцыя сяброў Беларускага Народнага Фронту. Са справаздачамі на канферэнцыі выступяць старшыня гарадзкой рады сп. Жынь, старшыні камісій, адбудзецца абраньне дэлегатаў на рэспубліканскую канферэнцыю Фронту.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

# ГЭТА ТРЭБА СЛУХАЦЬ!

**Пасьля невялікага перапынку, галоўны герой беларускіх тэлевізійных і радыё перадач зноў ашчасьлівіў народ сваёй шматгадзіннай прысутнасьцю па каналах СМІ. Прэзідэнта трэба слухаць (пажадана ў прамым эфіры), бо надрукаваныя пасьля ў газетах даклады не зьмяшчаюць галоўных думак А.Лукашэнкі, выказаных, калі ён адрываецца ад надрукаванага тэксту.**

Неабавязкова быць сьпецыялістам, каб бачыць, як развальваецца эканоміка краіны. Нават у прамовах прэзідэнта адчуваюцца зьмены. Ён зараз ня хваліцца дасягненьнямі, а радуецца, што наша прамысловасьць адстае ад узроўню мінулага году толькі на 1% (праўда, калі глядзіш на ўмовы жыцьця людзей, складаецца ўражаньне - нехта да гэтага працэнта, у справаздачы, забыўся дапісаць некалькі нулёў). На сустрэчы з кіраўнікамі маладзёжных (камсамольскіх) арганізацый, Лукашэнка выказаў сваё разуменьне, як трэба кіраваць эканомікай, маўляў, грошы яшчэ ёсьць - трэба ведаць, як іх разьмеркаваць. Але ж для гэтага неабходна, каб нехта тыя грошы даў.




Рыгоравіч у вырашэньні фінансавай праблемы ідзе арыгінальным шляхам. Ён адрозьніваецца ад сваіх калег з іншых краін, якія ў першую чаргу імкнуцца падтрымаць айчынны бізнэс. Наш прэзідэнт ня верыць у беларусаў. На нарадзе кіраўнікоў выканкамаў Лукашэнка сказаў, што ня хоча супрацоўнічаць з беларускімі прадпрымальнікамі, бо яны бедныя. Іншая справа, калі прыйдуць багатыя замежнікі і выкупяць нашыя прадпрыемствы. Вось і будуць грошы для разьмеркаваньня. А тое, што насельніцтва Беларусі можа апынуцца ў каланіяльнай залежнасьці ад замежных гаспадароў, кіраўніка дзяржавы відаць не цікавіць, дый і ведамства Ціцянкова без маёмасьці напэўна не застанецца.

Безумоўна, лепш за ўсё, каб акцыі беларускіх заводаў апынуліся ў руках расейскіх "братоў", тым больш Захад і так адмаўляецца супрацоўнічаць з антыдэмакратычным рэжымам. Выказваньні Лукашэнкі на прэс-канферэнцыі ў Брэсьце, пасьля сустрэчы з Ельцыным, можна было зразумець так: калі расейцы хочуць - няхай выкупляюць маёмасьць, якая падабаецца. Ён нават прапанаваў Ельцыну некалькі дзесяткаў прадпрыемстваў. Але Барыс Мікалаевіч адмовіўся, спасылаўшыся на тое, што адразу столькі замнога, трэба пачаць з некалькіх. Лукашэнка напэўна ведае - шмат расейскіх кампаній маюць сумесны капітал з замежнымі. Значыць пакінуўшы сабе належны працэнт грошай ад выкарыстаньня беларускай прамысловасьці, астатнія аддадуць на Захад. А гэта пахне так нялюбімай Рыгоравічам сьпекуляцыяй і не абы чым, а цэлай краінай.

Зьдзяйсьненьню плянаў нашага прэзідэнта замінаюць расейскія выбары. Лукашэнка патрапіў у даволі пікантную сітуацыю. Ён пакрыўдзіў Ельцына, не падтрымаўшы пад час выбарчай кампаніі, і пасьпяшаўся выказацца супраць расейскіх рэформ адразу пасьля першага туру выбараў. Калі Ельцын выйграе, неабходна будзе згубіць шмат часу, каб дапрасіцца прабачэньня. У выпадку перамогі камуністаў, невядома колькі яны будуць дзяліць кіруючыя пасады і разьбірацца ва ўнутраных расейскіх справах. А могуць яшчэ патрабаваць тлумачэньня, чаму Лукашэнка ў Брэсьце, з уласьцівай яму шчырасьцю, жадаў Ельцыну перамогі.

Ад утварэньня ССР праходзіць усё больш часу, і галоўны лукашэнкаўскі электарат можа стаміцца чакаць "бясплатны сыр".

**Д.КІСЕЛЬ**

# СПЫНІЦЬ СЬПЕКУЛЯЦЫІ

Кіраўніцтва БНФ "Адраджэньне" распаўсюдзіла 25 чэрвеня заяву. У ёй, у прыватнасьці, гаворыцца:

"Да гэтай пары ідуць палітычныя сьпекуляцыі вакол Дагавора аб беларуска-расейскім супольніцтве, заключанага А.Лукашэнкам з прэзідэнтам Расейскай Федэрацыі ў Маскве 2 красавіка г.г. Між тым быццам бы ў развіцьцё гэтага дагавора , прымаецца беспрэцэдэнтнае рашэньне пра "аб'яднаньне" мытных службаў Расеі і Беларусі, а ў сапраўднасьці пра паглынаньне беларускай мытні расейскай мытнай службай. "Ва ўсіх гэтых дзеяньнях, - адзначаецца ў заяве, - выразна бачацца прыкметы парушэньня арт. 1 (ч.2), арт. 8 (ч.2), арт. 9, арт. 100 п. 1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь".

# РАСЕЙСКАГА ПРЭЗІДЭНТА БУДУЦЬ ВЫБІРАЦЬ І Ў ЛІДЗЕ

Тут, па вуліцы Катлярэўскага, знаходзіцца адзін з выбарчых участкаў па выбарах прэзідэнта Расейскай Федэрацыі. Трэцяга ліпеня свае галасы за аднаго з двух кандыдатаў - Ельцына ці Зюганава - аддадуць расейскія грамадзяне, якія жывуць на Беларусі. Сярод выбаршчыкаў - у асноўным расейскія вайскоўцы.

Як даведаўся наш карэспандэнт, за кандыдата ў прэзідэнты расейскія грамадзяне змогуць прагаласаваць трэцяга ліпеня таксама па выбарчых участках у Менску (дзе знаходзіцца амбасада Расеі), у Берасьці, Клецку і Быхаве.

**М.ВАСІЛЕВІЧ**





# САЛЬТА ПРАГНУЎШЫСЯ З ПАВАРОТАМ НАЗАД

Гады перабудовачнай "адлігі" на Беларусі сталіся часам, калі навукоўцы-гісторыкі вольна ўздыхнулі. Зьнікла камуністычная манаполія на ісьціну, а людзі пачалі адкрываць для сябе і другіх Гісторыю сваёй краіны. Вярнуліся з нябыту кнігі Ластоўскага, Доўнар-Запольскага, Ігнатоўскага, Луцкевіча, Смоліча, выдаў свае працы Ермаловіч. Спакваля стала фармавацца канцэпцыя нацыянальнай гісторыі (якую ствараюць не ў Маскве і не ў Варшаве). Зьявіліся і першыя грунтоўныя выданьні - два тамы "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", "Энцыклапедычны даведнік "Беларусь"". Але з пэўнага моманту, калі ля стырна дзяржавы стаў "великий кормчий", назіраецца новая хваля бальшавіцкага цемрашальства. Пасьлядоўнікі Фамусава зноў атрымліваюць "зялёнае сьвятло".

19 чэрвеня бягучага году ў "Народнай газеце" надрукаваны складзены "представителями научной и творческой интеллигенции" адкрыты ліст да прэзідэнта Лукашэнкі. Сярод падпісантаў спрэс акадэмікі, лаўрэаты, "члены". "И вот они вышли во всех своих регалиях" - сказаў бы клясік. Рупліўцы цноты беларуска-расейскіх стасункаў патрабуюць "восстановления исторической правды". Аказваецца памянёныя вышэй энцыклапедыі "не способствуют развитию интеграционных процессов". Кідаецца ў вочы, што сярод паўсотні тытулаваных "радетелей" амаль няма прафесійных гісторыкаў (хіба толькі прафесар Залескі - даўні "граміла" нацыяналізму). Затое ў першых шэрагах "залатыя віцязі" Гасьцюхін і Яроменка, заслужаны лётчык Баранкевіч, галоўны маляр краіны Савіцкі, нейкія "заслуженный изобретатель", фотажурналіст. Нават сіла алімпійскага чэмпіёна па барацьбе Мядзьведзя запатрабавалася. Уся гэтая стракатая кампанія "с целью консолидации" прапануе вывесьці выдавецтва "Бел Эн" (работа яго галоўнага рэдактара Пашкова падвяргаецца "яростному сопротивлению со стороны национал-экстремистов") з падпарадкаваньня Дзяржкамдруку і перадаць у адміністрацыю прэзідэнта. Пры гэтым навукова-метадычная і рэдакцыйная рады павінны прызначацца "высочайшим" указам.



Аўтары ліста характарызуюць сябе праз дзьве рысы. Першая - гэта нянавісьць (у большасьці, безумоўна, асэнсаваная і мэтанакіраваная) да ўсяго беларускага. Другая - імкненьне "прагнуцца" і дагадзіць існуючаму рэжыму. Пахлебства таннага кшталту навідавоку. Прылашчаныя яшчэ колішнімі камуністычнымі ўладамі, гэтыя людзі прагнуць новых пасадаў і ўзнагародаў. На схіле веку ў шаноўных ветэранаў раптам выявіўся зайздросны "мощный интеллектуальный потенциал".

Акадэмікі ад навукі пакрабацку спрабуюць выканаць ідэалагічнае "сальта-мартале" з паваротам назад. Ды толькі прызямленьне атрымліваецца на галаву.

**Р. ВОСТРАШАБЕЛЬСКІ.**

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!!!**

**"Купальле-96" адбудзецца ў ноч з 29 на 30 чэрвеня на традыцыйным месцы (бераг Нёмана насупраць Зарыцы). Праезд аўтобусам N 25 ад прыпынку КБМ у 19.00; 19.30; 20.00 да Зарыцы, льбо мікрааўтобусамі РАФ ад прыпынку "Тонкасуконнае аб'яднаньне" (вул. Горкага)**

# *ВАЙНА З МАГДЭБУРГСКІМ ПРАВАМ*

**21-22 чэрвеня рыбакоў, што прыехалі на рыбу ў Бершты, прымушалі зьехаць з возера нашы доблесныя памежнікі, якія тлумачылі свае дзеяньні тым, што Бершты - памежная зона, пра што нідзе на пад'ездах да мястэчка няма аніякай інфармацыі.**

Але праблема ня толькі ў гэтым. Рэч у тым, што 11 ліпеня гэтага году наш горад будзе сьвяткаваць 500-ыя ўгодкі наданьня Горадні прывілея на магдэбургскае права. Аддзелам культуры гарвыканкаму і грамадзскасьцю горада планавалася сумясьціць сьвяткаваньне гэтага юбілею з Купальлем па праваслаўнаму календару ў мястэчку Бершты, дзе ў 1496 годзе быў падпісаны прывілей жыхарам Горадні Вялікім князем Аляксандрам. Але на думку менскіх і іншых высокіх начальнікаў сьвяткаваньне дня нараджэньня мясцовай дэмакратыі ідэалагічна не адпавядае гістарычнаму лёсу беларускага народу, прызначанаму нам усенародным правадыром. Сьвята ў Берштах забаранілі і, каб не адбыўся несанкцыянаваны шабаш нацыяналістаў - гэта значыць усіх, хто ведае і шануе гісторыю, - у прывентыўных мэтах актывізавалі прафесійную дзейнасьць памежнікаў ужо напярэдадні традыцыйнага Купальля, якое адзначаецца ў самую кароткую ноч году - з 23 на 24 чэрвеня. Першымі нацыяналістычнымі ахвярамі аперацыі ў абарону ідэалагічнай чысьціні беларускай гісторыі сталі рыбакі, якія прыехалі на звычайную рыбалку ў Бершты бяз пропускаў у памежную зону.

Памежная зона, якая ад часоў "першага прэзідэнта незалежнай Беларусі" ўсё шчыльней заціскае гарадзенцаў у межы, набліжаная да гораду, - пазбавіла шматлікіх аматараў рыбнай лоўлі, грыбоў, ягадаў дый проста дзікай прыроды звыклых і ўлюбёных месцаў адпачынку. Магчыма, хуткім часам выезд за межы горада, як і выезд за мяжу, згодна абяцаньню прэзідэнта, будзе дазваляцца толькі з яго асабістага дазволу. Са сьвятам, спадарства!

**Т.КАВЕЦКАЯ.**

# *Ў НЕБЯСЬПЕЦЫ*

## ЗНАХОДЗЯЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ШКОЛЫ Ў ГОРАДНІ

**Сёньня людзі, якія пануюць на Беларусі, хочуць зьнішчыць незалежнасьць краіны, зноў зрабіць беларусаў сваімі служкамі і выкарыстоўваць іх працавітасьць і талент у мэтах, прыносячых шкоду нашаму народу. Для таго, каб пазбавіць Беларусь будучыні, яны, часам патаемна, а бывае й адкрыта зьнішчаюць беларускае школьніцтва. Цынічна абвяшчаецца, што робіцца гэта ад імя беларусаў, якія, быццам бы, выказаліся год назад супраць сваёй мовы. Але рэферэндум не адмяніў яе дзяржаўнасьць, і дзеці маюць поўнае права вучыцца ў роднай школе.**

У Горадні існуе небясьпека пераводу на расейскую мову навучаньня школ, якія ўжо працавалі як беларускія. На жаль, у гэтай справе нярэдка прымаюць удзел настаўнікі, бо некаторым зручней выкладаць па-расейску, а на будучыню дзяцей такім "педагогам" напляваць. Ідзе апрацоўка бацькоў, распаўсюджваюцца розныя чуткі, толькі каб дабіцца заяў аб адкрыцьці не беларускіх, а расейскіх класаў. На бацькоўскіх сходах водзяць рэй тыя, каму падабаецца жыць на Беларусі, але вельмі не падабаюцца беларусы. Такія людзі адкрыта ганьбяць нашу мову, падымаюць вэрхал, патрабуючы зьліквідаваць беларускія класы. Беларусы часьцей за ўсё сядзяць схіліўшы галовы і пакорліва пазбаўляюць сваіх дзяцей магімсьці атрымаць адукацыю на роднай мове.

Людзей можна зразумець. З самых высокіх моўніц ідзе антыбеларуская прапаганда. Складваецца ўражаньне, што для Беларусі няма ніякіх перспектыў. Бацькі ня хочуць ствараць для сваіх дзетак цяжкасьці ў жыцьці. Але зло ня будзе панаваць вечна. Прыпыніць адраджэньне нашай краіны можна, спыніць - ужо немагчыма. Калі сёньняшнія першаклясьнікі скончаць школу, беларуская мова зойме належнае ёй месца ў дзяржаве.

Для таго, каб растлумачыць бацькам, што ніхто, акрамя іх, ня мае права вырашаць будучыню дзяцей, дапамагчы сумленным настаўнікам годна выконваць свой прафесійны абавязак у Горадні працуе Таварыства Беларускай Школы. 24 чэрвеня прайшло чарговае пасяджэньне гэтай грамадзкай арганізацыі. Намесьніца старшыні ТБШ спадарыня Тамара Талерчык распавяла пра працу, якая праведзена Таварыствам. Ужо адбыліся размовы з часткай бацькоў, але гэта толькі пачатак справы. Неабходна абыйсьці яшчэ шмат дамоў, дзе жывуць першаклясьнікі. Праца цяжкая, часам няўдзячная. Пакуль ёй згадзіліся займацца 60 чалавек. На ўзбраеньні сяброў ТБШ толькі сумленьне і вера ў Бацькаўшчыну. Таварыства патрабуе дапамогі ўсіх патрыётаў Беларусі. Тых, каму неабыякавы лёс нашай школы чакаюць кожны панядзелак, а 18-ай гадзіне ў памяшканьні філалагічнага факультэту унівэрсітэту. Пра выпадкі ціску на бацькоў і прымусовы перавод навучаньня дзяцей на расейскую мову, можна паведаміць па тэл.: 44-91-22 і 44-09-33. Па названых тэлефонах бацькі могуць атрымаць неабходныя тлумачэньні і парады.

**Д.КІСЕЛЬ**

# "КЭМЭЛ" З ГАРАДЗЕНСКАЙ ПРАПІСКАЙ

**29 траўня 1996 году Кабінет Міністраў Беларусі сваім распараджэньнем стварыў рабочую групу па стварэньні на базе Гарадзенскай тытунёвай фабрыкі сумеснага прадпрыемства з амерыканскай кампаніяй "Рэйнольдс". Кошт праекту складае каля 60 млн. даляраў.**

Візітоўкай R.S.Reynolds Tobacco international S.A. зьяўляюцца вядомыя ва ўсім сьвеце цэнтры "Кэмэл", "Салем", "Магна".

Прапанаваны амерыканскім бокам праект прадугледжвае вызваленьне будучага сумеснага прадпрыемства на пяць гадоў ад усіх падаткаў. У мінулым годзе з 78 мільярдаў прыбытку пасьля аплаты ўсіх падаткаў на фабрыцы засталося ўсяго 47 мільярдаў.

Аднак вялікага захапленьня ў працоўнага калектыву варыянт стварэньня сумеснага прадпрыемства ня выклікаў. Разьлічвацца за крэдыт з "Рэйнольдс" прыйдзецца з прыбытку ад сумеснай дзейнасьці. Тры з пяці галасоў пры вырашэньні ўсіх спрэчных пытаньняў у працы СП будуць належаць амерыканцам. У іх руках і манаполія на збыт прадукцыі. Пра ўсе гэтыя негатыўныя моманты гаварылася пад час сустрэчы работнікаў фабрыкі са старшынём аблвыканкаму Аляксандрам Дубко. Галава абласной вертыкалі паведаміў, што прэзідэнт Лукашэнка згодны з прапанаваным праектам 50 на 50 і што бяз згоды аблвыканкаму і працоўнага калектыву ў такім выглядзе сумеснае прадпрыемства ствараца ня будзе. Як паведаміла ў размове з карэспандэнтам "Пагоні" дырэктар тытунёвай фабрыкі Надзея Прымшыц, амерыканскаму боку накіраваны свой варыянт стварэньня сумеснага прадпрыемства. У хуткім часе павінен пачацца новы раўнд перамоваў па гэтым пытаньні.

# МОЖНА І ЗА ГРОШЫ

**Лета - час абітурыентаў. Прапануем чытачам умовы паступленьня ў некаторыя ВНУ Горадні.**

Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я.Купалы прымае дакументы для паступленьня на дзьве формы навучаньня: бясплатную (бюджэтную) і платную (аплаты прымаецца ад фізічных і юрыдычных асобаў). Тэрміны падачы дакументаў такія: на дзённае аддзяленьне бясплатнай формы навучаньня з 26 чэрвеня па 15 ліпеня, а на завочнае і вячэрняе аддзяленьні з 17 чэрвеня па 1 ліпеня. Уступныя экзамены адбудуцца на дзённым аддзяленьні з 16 ліпеня па 2 жніўня, а на завочным і вячэрнім - з 2 па 12 ліпеня.

Тэрмін прыёму дакумантаў на дзённае, завочнае і вячэрняе аддзяленьні платнай формы навучаньня - з 5 па 10 жніўня. Залічэньне на платнае навучаньне праводзіцца па выніках субяседаваньня, якое адбудзецца 12-13 жніўня. Кошт навучаньня зацьвярджаецца загадам рэктара і вылічваецца ад тарыфнай стаўкі 1 разраду. На такія сьпецыяльнасьці, як права і эканоміка, міжнародныя адносіны і на інжынерныя сьпецыяльнасьці кошт навучаньня на дзённым аддзяленьні складае 5 млн. рублёў, а на педагагічныя (усе астатнія) - 4,5 млн. рублёў. Кошт навучаньня на завочным аддзяленьні, у тым ліку атрыманьня другой вышэйшай адукацыі: 2,7-3,3 млн. рублёў.

Гарадзенскаму сельскагаспадарчаму інстытуту ў гэтым годзе спаўняецца 45 гадоў. Традыцыйна ён набірае на дзённае аддзяленьне на агранамічны, зоаінжынерны і на факультэт аховы расьлін. Прыём дакумантаў пачынаецца з 26 чэрвеня па 15 ліпеня, экзамены пачынаюцца з 16 ліпеня, залічэньне - да 5 жніўня. Паступаючы здаюць вусныя экзамены па біялогіі, хіміі, па беларускай (рускай) літаратуры. Звыш колькасьці набору могуць быць залічаны тыя, хто здаў экзамены, але не прайшоў па конкурсу, пры ўмове, што за іх будзе аплочаны курс навучаньня.

Прыём дакумантаў на завочную форму навучаньня з 10 кастрычніка па 10 лістапада, уступныя экзамены - з 11 лістапада. Залічэньне адбудзецца да 31 сьнежня 1996 году.

Тэлефоны для даведак: 47-20-73, 45-40-42, 45-25-19.

Гарадзенскі медыцынскі інстытут прымае заявы з 26 чэрвеня па 15 ліпеня. Уступныя экзамены пачынаюцца з 16 ліпеня. На сястрынскі факультэт (завочная адукацыя) заявы прымаюцца з 1 па 15 жніўня, субяседаваньне з 16 па 20 жніўня.

Тэлефоны для даведак: 33-82-21, 33-32-93.

## СЬВЯТКУЕ "КУЗЬНЯ КАДРАЎ"

Сёньня Гарадзенскі сельскагаспадарчы інстытут адзначыць чарговы -45-гадовы юбілей. Гэтая ВНУ вядомая тым, што да нядаўняга часу была кузьняй кіруючых кадраў. Выпускнікі сельгасінстытуту ёсьць і ў Кабінеце Міністраў, і ў прэзідэнцкай адміністрацыі і ў абласных ды раённых выканкамах.

Сёньня ў Горадні зьбяруцца многія з тых, хто атрымліваў дыпломы ў сельгасінстытуце, каб адзначыць 45-гадовы юбілей. Да гэтай даты прымеркавалі і навукова-практычную канферэнцыю аграрыяў.

## ПАМЯЦІ АЎТАРА "МАЛЕНЬКАГА ПРЫНЦА"

Памяці французкага пісьменьніка Антуана дэ Сент-Экзюпеpы прысьвячаўся другі міжнародны пленэр дзіцячай творчасьці, які завяршыўся ўчора ў Горадні. На працягу тыдня юныя мастакі з Балгарыі, Арменіі, дзяржаў Балтыі і з Беларусі знаёміліся з нашым краем. Яны пабывалі ў Гудзевіцкім музеі, наведалі абласны Палац дзіцяча-юнацкай творчасьці, музеі абласнога цэнтра.

**Р.ЯЦЭЎСКІ.**

## ГУМОВЫ БЮДЖЭТ

Гарадзенскія ўлады вызвалілі ад платы за праезд у маршрутных таксаматорах да садова-агародных участкаў удзельнікаў вайны, інвалідаў 1 і 2 групаў.

Страты транспартнікаў будуць кампенсавацца за кошт гарадзкога бюджэту.

## ТРЭБА ДАЖЫЦЬ

Першыя 48 кватарантаў засяляцца ў хуткім часе ў Дом ветэранаў, які будуецца па вуліцы Фамічова.

Здача будынку планавалася да 40-годдзя перамогі над фашызмам, затым да 8 сакавіка 1996 году і ўрэшце да 9 траўня гэтага году. Камісія па прыёмцы Дома ветэранаў ужо створаная і да канца году, мабыць, ветэраны свае новыя кватэры атрымаюць. Калі, канешне, дажывуць.

## НЯБОЖЧЫКАМ ЦЕСНА

Першыя захаваньні нябожчыкаў адбыліся 24 чэрвеня на новых могілках у раёне Аўльса. Як паведамілі нам ва ўпраўленьні статыстыкі, за першыя пяць месяцаў 1996 году ў Горадні памерла 1039 чалавек. Нарадзілася толькі 1209 дзяцей.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

 







# ЧАМУ ПАМІРАЮЦЬ МАЛАДЫМІ

**20 чэрвеня ў ГрДзУ прайшла вечарына, прысьвечаная ўгодкам пісьменьніцы Алаізы Пашкевіч (Цёткі), пад назвай “Да Цёткі, на 120-ыя ўгодкі”. Імпрэза была падрыхтавана выкладчыцай унівэрсітэту А.Петрушкевіч і студэнтамі філалагічнага факультэту.**



Перад удзельнікамі вечарыны выступіла гарадзенская паэтка Данута Бічэль-Загнетава. Яна распавяла пра акалічнасьці лёсу і творчасьці Цёткі, адзначыўшы, што жыцьцё пісьменьніцы было такое ж, як ва ўсіх жанчын, што жывуць не дзеля сябе і ўсю моц свайго таленту аддаюць народу, таму, напэўна, паміраюць маладымі. Спадарыня Данута прачытала тры свае новыя вершы, напісаныя напярэдадні вечарыны. Напрыканцы свайго выступу яна пажадала прысутным быць вартымі пляменьнікамі Цёткі.

Нястомны кіраўнік дзіцячага ансамблю “Дударыкі” Я.Петрашэвіч, які са сваімі выхаванцамі музычна аздобіў сьвяточны вечар, прасьпяваў песьню на верш Цёткі “Родная вёска”, да якой сам напісаў мелодыю.

Традыцыйна не адна

## ІМПРЭЗА ВА ЎНІВЕРСІТЭЦЕ

адраджэнская імпрэза не абыходзіцца без удзелу хора “Бацькаўшчына”. Вечарына ня стала выключэньнем. Жанчыны з хору выканалі некалькі купальскіх песень, а В.Парфёненка прасьпяваў знакамітыя “Зорачкі”.

Кульмінацыяй была літаратурна-музычная кампазіцыя “Маладосьць і сьмерць”, паводле апавяданьня пісьменьніцы “Зялёнка”, у выкананьні студэнтак унівэрсітэту.

Скончылася імпрэза сьпяваньнем гімну “Магутны Божа”.

**Д.КІСЕЛЬ.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА**

# ЗАВІТАЎ І МІНІСТР

## ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ НА СУПОЛЬНУЮ ВЫСТАВУ ВЯДОМЫХ ГАРАДЗЕНСКІХ МАЙСТРОЎ

Нядаўна ў менскім мастацкім цэнтры “Жыльбел” адкрылася супольная выстава вядомых гарадзенскаіх майстроў - Сяргея Грыневіча, Вікторыі Загнетавай і Юрыя Якавенкі. Акцыя гарадзенцаў набыла шырокі розгалас і выклікала цікавасьць менскай інтэлектуальнай эліты. Нездарма на прэзэнтацыі сабралося шмат знакамітасьцяў, у тым ліку міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько.

Працы Сяргея Грыневіча, Вікторыі Загнетавай і Юрыя Якавенкі вельмі адрозьніваюцца паводле жанру і па тэматыцы, але маюць агульную тыпова гарадзенскую адметнасьць. Менавіта пра гэта гаварылі на адкрыцьці выставы ў “Жыльбеле” дырэктар галерэі “У майстра” Алена Пілічава, паэт Юры Гумянюк, культуролаг Ларыса Гусакоўская і мастак Алесь Тарановіч.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**






# “В ТЕНИ ЗАМКА ГЕДЕМИНА”

## УСПАМІНЫ

“В ТЕНИ ЗАМКА ГЕДЕМИНА” - пад такой назвай у Лідзе выйшла кніга ўспамінаў дзяцінства Яўгеніі Ярмант. Яўгенія Ярмантовіч - ураджэнка Ліды, жыла тут да 1939 году, перажыла вайну і чарговае вызваленьне аж да выезду ў 1946 годзе ў Польшчу.

Кніга не прэтэндуе на узровень эпапеі ці мемуараў. Гэта сапраўды ўспаміны з яркімі малюнкамі дзяцінства, што запомніліся і з пропускамі будніх дзён, што цягнуліся манатонным ланцугом. Героі кнігі жывуць у дасавецкай Лідзе, ходзяць па дасавецкіх вуліцах, думаюць дасавецкімі галовамі, і гэта накладвае на падзеі адбітак сапраўднасьці і шчырасьці. Таму, як ні прыкра, а даводзіцца верыць, што да вайны беларускасьць у Лідзе была амаль зьліквідавана. Нават праваслаўныя ўсьведамлялі сябе палякамі. Што датычыць дзяцей, то гэта былі выхаванцы польскай школы на крэсах, а таму больш палякі, чым у Варшаве. Беларусь прыязджала ў Ліду ў тыя часы на сялянскім возе галоўным чынам на кірмаш, а пасьля кірмашу зноў пакідала горад. Тым ня менш пераход лідзкіх школаў з польскай мовы на беларускую ў 1939 годзе быў зроблены “ў адзін дзень” і ніякіх пратэстаў ня выклікаў. І настаўнікі і вучні бадзёра пайшлі ў беларускія класы...

У бліжэйшы час кніга зьявіцца ў продажы і, мне падаецца, будзе цікавай ня толькі старажылам Ліды, а ўсім прыхільнікам гісторыі нашага краю.

**СТАНІСЛАЎ СУДНІК.**




# “КАРДАН” ПАЙШОЎ НА ЎЗЬЛЁТ

На фоне чэмпіянату Эўропы па футболе на другі пла адыйшло нацыянальнае першынство. Між тым у апошнім пройдзена ўжо трацiна турнірнай дыстанцыі. У заключнай сустрэчы 10-га туру першую перамогу нарэшце здабыў лідзкі “Абутнік”, адолеўшы ў сталіцы “Тарпеда” - 3:1. У лідчукоў вызначыліся Бурдзенідзэ (двойчы) і Пазьняк.

Змушанае скарачэньне колькасьці спаборнікаў у 2-й лізе (“загадалі доўга жыць” віцебскі “Кімавец” і барысаўскі “Фамальгаўт”) яшчэ болей зблытала карты яе удзельнікам. Гарадзенскі “Кардан Флаерс” у апошняй гульні “асадзіў” аднаго з лідараў - “Гомель” — 1:0. Рашаючы гол у сярэдзіне другога тайму бліскучым ударам галавы забіў Сяргей Саладоўнікаў. Нечакана слонімскі “Камунальнік” ня змог перамагчы аўтсайдара - сьветлагорскі “Хімік” - 1:1.

**ХЕЛЬМУТ КАМЕНСКІ.**

## СПРЫНТ

Гарадзенскі валейбаліст Артур Папай, “пазычаны” “Камунальнікамі” славенскаму “Марыбору”, стаў срэбным прызёрам чэмпіянату гэтай краіны.

Два іншыя гульцы гарадзенскай каманды - Сяргей Баран і Віктар Бекша, беспасьпяхова ўзялі ўдзел у Кубку Эўропы па пляжнаму валейболу, саступіўшы парам з Венгрыі і Украіны. Пасьля беларускіх штучных пяшчаных пляцовак у Аўстрыі прыйшлося гуляць на сапраўдных пляжах, дзе ногі правальваліся ў пясок вышэй косткі. Сапернікі ж рыхтаваліся да спаборніцтваў менавіта на такіх пляцоўках.

***

Гарадзенскі гімнаст Іван Паўлоўскі заняў трэцяе месца ў асабістым заліку на матчавай сустрэчы каманд Італіі, Беларусі і Румыніі. Заўтра Іван разам з Тацьцянай Жарганавай у складзе зборнай краіны накіроўваецца на збор у Атланту.

***

Лепшы баскетбаліст “Гродна-93” Уладзімір Шарко ў складзе маладзёжнай зборнай краіны возьме ўдзел у чэмпіянаце Эўропы, які 30 чэрвеня пачынаецца ў Турцыі. На папярэднім чэмпіянаце чэмпіёнам кантыненту ў складзе беларускай зборнай быў гарадзенец Аляксей Альшэўскі.

**Вітаўт РУДНІК**

# БАГАЦЬЦІ ПАД НАГАМІ

## ДЗЯРЖАВА НЕ КЛАПОЦІЦЦА ПРА БУДУЧАЕ БЕЛАРУСКАЙ ГЕАЛОГІІ

“Мы - грамадзяне незалежнай краіны, а таму павінны ведаць, што ляжыць у нас пад нагамі. А ляжаць там сапраўдныя багацьці. У савецкія часы дасьледаваньнем беларускіх нетраў сур’ёзна не займаліся - хапала Урала, Сібіры і г.д. Заўтра займацца гэтай справай ня будзе каму. Дзяржава практычна не клапоціцца пра будучае беларускай геалогіі. Упраўленьне па геалогіі адмовілася нават падпісаць узнагародныя граматы ўдзельнікам нашых спаборніцтваў. Калі так пойдзе і далей, то ў будучым прыйдзецца запрашаць геолагаў з-за межаў Беларусі”. Такімі невясёлымі развагамі з карэспандэнтам “Пагоні” падзяліўся адзін з галоўных арганізатараў рэспубліканскіх спаборніцтваў юных геолагаў, загадчык аддзела абласнога цэнтра дзіцячага і юнацкага турызму Уладзімір Жданюк. З 24 чэрвеня па 2 ліпеня каманды ўсіх абласцей краіны і Менска на Мелавых гарах у Горадні спрачаюцца за званне лепшага геалагічнага атрада Беларусі.

У праграме геалагічнага летніка разам са спаборніцтвамі па мінералогіі, нетраграфіі, геалагічнаму маршруту і г.п. шмат культурных і забаўляльных імпрэзаў. Гэта і вечар аматарскай песьні і разгадваньне геалагічнай крыжаванкі, і аўкцыён, дзе ўсё прадаецца не за грошы, а за веды. Завітаў да юных геолагаў і віцебскі тэатр “Шарп” з пастаноўкай “Кошка, якая гуляе сама па сабе”.

Пераможцы спаборніцтваў атрымаюць памятныя прызы, якія на працягу дзьвух месяцаў выраблялі сябры юнацкага геалагічнага атрада “Карат” з сярэдняй школы N 16.

**ВІТАЎТ РУДНІК**

# ХРАМ “БЛАГОДАТИ”

У хуткім часе ў Горадні будзе пабудавана новая царква. Гарвыканкам выдаў ліцэнзію на ажыцьцяўленьне інвестыцый дзейнасьці на будаўніцтва храма Царква хрысьціян веры Евангельскай “Благодать”. Будаўніцтва распачнецца на стыку вуліц Цітова і Леляведя.

# НА СКРЫЖАВАНЬНІ

Учора ў музэі гісторыі і рэлігіі ў Горадні адчынілася выстава “На скрыжаваньні Захаду і Усходу (Уніяцкая царква на Беларусі ў XVIII - пач. XIX ст.)”. Праца выставы, якая прысьвячаецца 400-м угодкам з часу падпісаньня Берасьцейскай царкоўнай вуніі, працягнецца да кастрычніка гэтага году.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**



# НОВЫ ЎЧАСТАК МІЛІЦЫІ

## на Цэнтральным рынку Горадні

Згодна з указам прэзідэнта “Аб неадкладных мерах па барацьбе са злачыннасьцю і стабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь” у Горадні створана 11 участкаў міліцыі грамадзкай бясьпекі. Яшчэ два аддзелы існуюць у Прынёманскім і на Дзевятоўцы. Аднак узровень злачыннасьці ў горадзе застаецца высокім. Павялічылася колькасьць цяжкіх злачынстваў, зьдзейсьненых з выключнай жорсткасьцю.

На стварэньне участкаў міліцыі грамадзкай бясьпекі ў Горадні было выдаткавана больш 180 млн. рублёў. Дзеля гэтых мэтаў былі набыты чатыры аўтамашыны, устаноўлены дадатковыя тэлефонныя нумары.

Днямі мэр горада Генрых Крупенка падпісаў рашэньне аб стварэньні новага ўчастку міліцыі - на цэнтральным рынку. Фінаддзелу гарвыканкаму загадана вылучыць на гэтыя мэты неабходныя сродкі. Рэгулярную дапамогу новаму і раней створаным участкам павінны аказваць і замацаваныя за імі прадпрыемствы.

**В.ДРЭМА.**

# ТРАГЕДЫЯ НА ДАРОЗЕ



## БАЧЭШНІКІ-ЛАЗДУНЫ Ў ІЎЕЎСКІМ РАЁНЕ

На мінулым тыдні на Гарадзеншчыне зарэгістравана 19 аварый. У 10-ці выпадках прычынай іх станавіліся памылкі кіроўцаў, якія няправільна абралі хуткасьць і зьехалі ў кювет альбо ўрэзаліся ў дрэвы ці слупы.

У выніку 11 чалавек апынуліся на бальнічных ложках, а для аднаго чалавека паездка, у якасьці пасажыра, стала апошняй.

Падобнай аварыяй пачаўся і новы тыдзень. У панядзелак каля дзьвюх гадзін ночы трагедыя здарылася на дарозе Бачэшнікі-Лаздуны ў Іўеўскім раёне. Жыхар вёскі Вікшняны “Жыгулямі” выехаў на паласу сустрэчнага руху, зьехаў у кювет і перакуліўся. Аднавясковец, які знаходзіўся ў машыне, памёр ад атрыманых траўм на месцы здарэньня. Вадзіцелю легкавіка і яшчэ аднаму пасажыру, таксама аднавяскоўцу, пашанцавала больш: для іх начная паездка скончылася гашпіталізацыяй.

**А.ДУК,**
**інсьпектар ДАІ УУС.**

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 465
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14 (23.00-10.00)

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 2201 Наклад 12928
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 27.06.96
Рэдактар Мікола Маркевіч

 